# ІСКРА

№ 56 (8479)
СУБОТА
22
ЛІПЕНЯ
2000 г.
Выдаецца
з 1931 г.
Цана 51 рубель

Газета ўзнагароджана
Ганаровай граматай
Вярхоўнага Савета БССР

Грамадска-палітычная газета Чавускага раёна






Сёлетняе надвор'е вельмі неспрыяльнае для нарыхтоўкі сена. Але ўдала выкарыстоўваючы "вокны" добрага надвор'я, калгас "Галавенчыцы" займае 5 месца ў раёне па аб'ёмах назапашвання сена.

**НА ЗДЫМКАХ: злева – механізатары Валерый Мікалаевіч Свірыдзенка і Іван Раманавіч Царанкоў, які 9 гадоў на пенсіі, аднак працу не пакідае, эфектыўна выкарыстоўваюць рулонныя прэсы (на здымку – справа).**

Фота В.ШУМАНСКАГА.

## Весткі з палёў

**По стану на 20 ліпеня ў раёне:**

♦ лепшых вынікаў у нарыхтоўцы кармоў на 1 умоўную галаву дасягнулі ў калгасах "Хацкавічы" – 17,4 ц. к. ад., "Антонаўскі" – 10,4 і ў саўгасе "Савецкая Беларусь" – 11,3 ц. к. ад. Менш за ўсіх нарыхтавалі кармоў у калгасах "XVIII партз'езд" – 4,5 ц. к. ад. і "50 год БССР" – 4,6 ц. к. ад.

♦ амаль усе гаспадаркі завяршылі першы ўкос траў, толькі саўгас "Савецкая Беларусь" і калгас "Чавускі" скасілі траў, адпаведна, 44,3 і 73,5 працэнта да плануемага.

♦ падрыхтоўкай глебы пад азімыя займаюцца ў гаспадарках: "Звязда", імя Леніна, "Савецкая Беларусь", "Пяцігодка", "Серп і молат" і "50 год БССР".

## Нарыхтоўка кармоў у гаспадарках раёна

**Даныя на 20 ліпеня (у працэнтах)**

| Назва гаспадарак | Нарыхтавана | |
|---|---|---|
| | сена | сенажу |
| "Сав. Беларусь" | 64,7 | 119,2 |
| "Іскра" | 40,2 | 107,4 |
| "Раста" | 40,1 | 92,1 |
| "Зара" | 33,9 | 132,4 |
| "Галавенчыцы" | 31,0 | 25,0 |
| імя Ільіча | 30,0 | 8,2 |
| "Св.Кастрычніка" | 29,7 | 105,8 |
| "Перадавік" | 25,9 | 93,1 |
| "Антонаўскі" | 25,4 | 173,6 |
| "Перамога" | 24,0 | 75,9 |
| "Пяцігодка" | 23,8 | 132,1 |
| "Серп і молат" | 21,4 | 80,0 |
| "Ленінскі шлях" | 17,1 | 87,6 |
| імя Леніна | 16,8 | 110,9 |
| "Чавускі" | 16,8 | 103,0 |
| "Праўда" | 16,3 | 87,8 |
| "Хацкавічы" | 16,0 | 124,0 |
| "XVIII партз'езд" | 15,4 | 32,4 |
| імя Дзяржынскага | 14,8 | 100,9 |
| "Звязда" | 12,4 | 106,8 |
| "Юны камунар" | 12,2 | 131,5 |
| "50 год БССР" | 9,6 | 90,2 |
| "Асінаўскі" | 5,6 | 55,0 |
| **Па раёну:** | **22,8** | **90,7** |

# ЯК МЫ ПРАЦАВАЛІ, ЯК ЖЫЛІ

**Вынікі работы народнай гаспадаркі і развіцця сацыяльнай сферы раёна за першае паўгоддзе 2000 года**

**ПРАМЫСЛОВАСЦЬ.** У прамысловасці раёна ў адносінах да аналагічнага перыяду мінулага года дасягнут прырост вытворчасці ў супастаўных цэнах на 9,1 працэнта. Пры гэтым спажывецкіх тавараў выпушчана на 15,4 працэнта больш, чым за студзень-чэрвень 1999 года.

Запасы гатовай прадукцыі на канец сакавіка складалі 132,9 млн. руб. і павялічыліся за чэрвень на 23,7 млн. руб. або на 21,7 працэнта. Доля запасаў гатовай прадукцыі ў адносінах да выпрацоўкі на 1 ліпеня склала 8,3 працэнта (на 1 чэрвеня было 9,7 працэнта).

**СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА.** Па стану на 10 ліпеня бягучага года ў раёне было скошана першым укосам сеяных і натуральных траў 91,6 працэнта да задання і 105 працэнтаў да ўзроўню мінулага года.

Паліва-змазачных матэрыялаў да ўзроўню мінулага года на 1 ліпеня мелася: дызпаліва – 41,6 працэнта, бензіну – 32,1 працэнта.

Рэалізацыя жывёлы на мяса склала 88,7 працэнта, валавы надой малака – 91 працэнт.

**КАПІТАЛЬНАЕ БУДАЎНІЦТВА.** На развіццё эканомікі і сацыяльнай сферы раёна за лік усіх крыніц фінансавання выдаткавана 550,6 млн. руб.

Жылля здадзена ў эксплуатацыю 5184 кв. м., што складае 77 працэнтаў гадавога плана.

Індывідуальнымі забудоўшчыкамі ўведзена ў эксплуатацыю 20 кватэр.

**ГАНДАЛЬ І АКАЗАННЕ ПЛАТНЫХ ПАСЛУГ.** Рознічны тавараабарот складаў па раёну па афіцыйна зарэгістраваных прадпрыемствах гандлю 2 млрд. 91,2 млн. руб. і ўзрос у супастаўных цэнах на 5,7 працэнта.

Доля спажывецкай кааперацыі ў агульным тавараабароце склала 75,4 працэнта.

Узровень аказання платных паслуг узрос у параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года на 5,9 працэнта. А вось па бытавых паслугах назіраецца зніжэнне на 13,6 працэнта.

**ФІНАНСЫ.** Прадпрыемствамі і арганізацыямі раёна атрымана 106,2 млн. руб. страт. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года сума страт павялічылася на 12,5 працэнта.

Дэбіторская запазычанасць (гэта значыць, запазычанасць прадпрыемствам і арганізацыям раёна – **рэд.**) дасягнула 794,9 млн. руб. і павялічылася за май на 21,5 млн. руб. Аднак крэдыторская запазычанасць прадпрыемстваў і арганізацый раёна (гэта значыць, яны вінны за тавары, матэрыялы і паслугі – **рэд.**) перавышае дэбіторскую ў 2,3 раза і складае 2 млрд. 279,2 млн. руб.

Грашовыя сродкі, якія маюцца на рахунках прадпрыемстваў і арганізацый перакрываюць крэдыторскую запазычанасць толькі на 4 працэнты.

**УЗРОВЕНЬ ЖЫЦЦЯ І ДАХОДЫ НАСЕЛЬНІЦТВА.** Сярэднямесячная зарплата ўсіх катэгорый работнікаў, уключаючы матэрыяльную дапамогу і сацыяльна-працоўныя льготы, у маі склала 34598 руб. і павялічылася ў параўнанні з маем мінулага года ў "прамым" вылічэнні ў 2,9 раза.

**ДЭМАГРАФІЯ.** За студзень-май бягучага года ў раёне нарадзілася 87 дзяцей, што менш, чым за такі ж перыяд мінулага года на 12 дзяцей. У горадзе Чавусы нарадзілася 45 дзіцяці, на сяле – 42.

За пяць месяцаў з пачатку года памерла 275 чалавек (у 1999 годзе за гэты ж перыяд – 335), з іх у працаздольным узросце 48 чалавек або 17,5 працэнта.

За лік натуральнага руху насельніцтва раёна скарацілася на 188 чалавек.

За пяць месяцаў у раёне зарэгістравана 37 шлюбаў і 66 разводаў супраць 58 і 42 у мінулым годзе за той жа час.

**(Матэрыялы прадастаўлены раённым аддзелам статыстыкі).**

# ПРАПАЎ... ПАРТРЭТ

У нумары "Іскры" за мінулую суботу мы друкавалі спіс працаўнікоў, занесеных на раённую Дошку гонару. І не падазравалі, што ў гэтым спісе крыецца сюрпрыз.

У панядзелак у рэдакцыі прагучалі два тэлефонныя званкі. Званіўшыя жыхары горада (так яны сябе назвалі), абураліся, чаму газета піша няпраўду: у спісе ёсць прозвішча начальніка ДРБУ-176 Краўцова М.Д., а вось яго партрэта на Дошцы гонару няма. Дык куды глядзіць рэдакцыя – перш, чым друкаваць, трэба ж было з Дошкай зверыцца.

Супрацоўнік рэдакцыі, які рыхтаваў спіс да друку, здзівіўся: спецыяльна ж ездзіў да Дошкі гонару, каб праверыць яшчэ і яшчэ, бо сапраўды некаторыя людзі па розных прычынах з першапачатковага варыянта спісу на Дошку гонару не трапілі. Дні за тры перад публікацыяй партрэт Краўцова М.Д. вісеў на Дошцы гонару!

**Ну і ну!**

З'ездзілі на ганаровае месца яшчэ – верна, партрэта Краўцова М.Д. няма, пустое месца "на адкрыцці" Дошкі як бы выпадае з кампазіцыі.

Пачалі ўдакладняць па "інстанцыях": можа, было нейкае ўказанне зняць партрэт? Ды не, адказваюць аўтарытэтныя таварышы, якое можа быць указанне? Арганізацыя застаецца адной з лепшых у раёне, кіраўнік – умелы арганізатар вытворчасці. Відавочна, ці хуліганская выхадка, ці якая-небудзь яшчэ зусім нечаканая прычына знікнення партрэта...

Што ж, рэдакцыі таксама застаецца толькі пашкадаваць наконт дзеяння невядомай асобы (ці асоб), што па нейкіх прычынах пакваліліся на партрэт.

Канешне, варта заўважыць, што Дошка гонару, так сказаць, тэрытарыяльна размешчана не зусім удала. Будавалася яна яшчэ тады, калі тут быў своеасаблівы цэнтр Чавус, зараз жа цэнтр перамясціўся да Дома Саветаў. Але на новую Дошку гонару патрэбны немалыя грошы, а іх у бюджэце вострa не хапае. Таму застаецца толькі спадзявацца на высакародныя паводзіны жыхароў раёна і наогул усіх, хто праходзіць міма Дошкі.

В.ЛУК'ЯНАЎ.

## ТЫДЗЕНЬ ЧАВУСЫ РАЁНА

### ПЕРАДВЫБАРНЫЯ ПЫТАННІ

Як вядома, 15 кастрычніка бягучага года адбудуцца выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Ужо ў мінулую пятніцу ў аргаддзеле аблвыканкома адбылася перадвыбарная нарада, бо многія пытанні павінны забяспечваць менавіта органы ўлады.

На нарадзе ад Чавускага раёна прысутнічалі намеснік старшыні райвыканкома А.Н.Вінкевіч і загадчык аддзела арганізацыйна-кадравай работы У.М.Зелянкоў. Удзельнікаў нарады азнаёмілі з пытаннямі, якія давядзецца рашаць мясцовай уладзе ў сувязі з выбарамі ў беларускі парламент, выдалі ўзоры дакументацыі.

На гэтай жа сустрэчы намеснік старшыні аблвыканкома А.Ц.Глаз падзяліўся ўражаннямі з нарады, якую праводзіў у Магілёве па пытаннях эканомікі і сацыяльнага развіцця прэм'ер-міністр У.Ярмошын.

* * *

Чавускі раён уваходзіць у Крычаўскую выбарчую акругу, у якую ўключан таксама і Чэрыкаўскі раён. Ад нашага раёна ў акруговую выбарчую камісію да 31 ліпеня неабходна вылучыць 4 чалавекі. Правам на вылучэнне валодаюць райвыканком, грамадзяне, працоўныя калектывы, палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі.

### НАМ АБЯЦАЛІ КАМБАЙНЫ

З неафіцыйных крыніц рэдакцыі стала вядома, што калгасам і "Аграсервісу" Чавускага раёна да сёлетняга жніва абяцана выдзеленне за лік мэтавых фондаў падтрымкі сельскай гаспадаркі 6 зернеўборачных камбайнаў: 4 "Доны" і 2 – вытворчасці "Гомсельмаша".

### НЕДАСЯГАЛЬНЫ КРЭДЫТ

"Белаграпрамбанк" адкрыў новую крэдытную лінію для плацёжаздольных гаспадарак і прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу на 5 млрд. руб. для закупкі маладняку буйной рагатай жывёлы. Але для вельмі многіх гаспадарак нашага раёна гэты крэдыт застанецца недасягальным, бо плацёжаздольных у нас раз, два – і аблічыўся.

### ПАСЯДЖЭННІ

У мінулы чацвер адбыліся пасяджэнні камісіі па справах непаўналетніх пры райвыканкоме і каардынацыйнага савета па праблемах сям'і і дзяцінства. На пасяджэннях былі абмеркаваны злабадзённыя пытанні, якія датычацца работы з так званымі цяжкімі сем'ямі і дзецьмі, іншыя сацыяльныя праблемы.

### СПАРТЫЎНЫЯ НАВІНЫ

Закончыўся першы круг сярод 12 лепшых футбольных каманд вобласці. Чавуская "Ніва" дзеліць 6-7 месца з фарм-клубам "Шыннік" з Бабруйска. Апошнюю гульню ў мінулую сераду "Ніва" прайграла бабруйскай "Бярэзіне".

Завяршыўся дзіцяча-юнацкі футбольны турнір г. Чавусы на прыз "Скураны мяч". Першае месца сярод каманд старэйшай узроставай групы заняла каманда "Юнікс" з вул. Піянерская; у малодшай групе мацнейшай была каманда "Юнацтва" з турбазы. Усяго ўдзельнічала 11 каманд.







## УРАГАН У "ЮНЫМ КАМУНАРЫ"

Раённая газета расказвала ўжо ў мінулым нумары на 1-й старонцы аб наступствах урагану, які пракаціўся па раёну 14 ліпеня ў 19.30. Але, як гаворыць прымаўка, лепш адзін раз убачыць, чым сем разоў пачуць…

Фотакарэспандэнт "Іскры" пабываў у найбольш пацярпеўшай ад стыхіі гаспадарцы – калгасе "Юны камунар". Здымкі з цэнтральнай сядзібы, вёскі Забалацце, вы бычыце на гэтай старонцы.

Уверсе злева – разбураны шквальным ветрам зернеток, які склаўся, нібы картачны дамок. Уверсе справа – такім чынам ураган знёс дах на летнім цялятніку – над жывёлай толькі неба ў клетку.

На здымку ўнізе рабочыя спрабуюць разабраць рэшткі даху, які смерч сарваў з майстэрні, перакінуў праз правады электраліній і шпурнуў на зямлю за некалькі дзесяткаў метраў.

А яшчэ вецер скруціў і адкінуў убок з падмурку металічны каркас арачніка, які меў амаль нулявую "паруснасць". Гэта яшчэ раз даказвае, што ў Забалацці "пагуляў" менавіта смерчавы віхор.

**Фота В.ШУМАНСКАГА.**

## ЖЕСТОКИЕ ПРОИСКИ "ВЕНЕРЫ"

**Ваше здоровье**

О проблеме венерических заболеваний говорится в средствах массовой информации немало, однако напоминать о ней надо постоянно.

Хотя заболеваемость в целом по РБ пошла на спад в 1997 г., в нашем районе – в 1999 г., серьезность данной проблемы, в частности заболеваемости сифилисом, заключается в том, что именно сейчас наступает время, когда мы начнем "пожинать плоды" эпидемии, разразившейся 5 лет назад, а это значит, что начнут все чаще и чаще появляться поздние формы сифилиса, т.е. третичный сифилис, сифилис нервной системы, висцеральный сифилис (т.е. сифилис внутренних органов, а поражаться могут практически все органы человеческого организма). А эта проблема неизбежна, т.к. население несерьезно воспринимает коварство венерических болезней, а также большая часть занимается самолечением.

Сейчас необходимо заострить внимание на том, что при ранних стадиях болезни страдает не сам заболевший, а окружающие его, т.к. именно в I и II период сифилис является очень заразным как бытовым, так и половым путем, то в поздних стадиях страдает сам заболевший в результате поражения всех органов и систем, и характерно то, что все эти изменения крайне трудно поддаются лечению или, скорее всего, вообще не излечимы. Но для окружающих уже эти больные почти не опасны.

Как уже говорилось выше, в целом по РБ спад заболеваемости начался раньше, чем на периферии, и в частности в Могилевской области. Примерно такая аномалия характерна и для Чаусского района, что видно из следующих цифр, которые, кроме того говорят еще раз о том, что население всерьез не воспринимает эту проблему.

Так, за 4 месяца 2000 года в районе зарегистрировано 10 случаев сифилиса. При таких темпах роста за год будет достигнут прошлогодний уровень заболеваемости. Характерно то, что в структуре заболеваемости преобладает сельское население – 8 случаев, т.е. 80%. "Передовиком" в этом плане является Антоновский с/с, где зарегистрировано 5 случаев, или 50%, в этом же сельсовете и самый молодой заболевший – 15-летний подросток.

Хотелось бы остановиться и еще на одном моменте – о профилактике врожденного сифилиса. С этой целью все беременные женщины, состоящие на учете в женской консультации, обследуются на сифилис, но, к сожалению, даже в наше время находятся такие, которые на учет не становятся, и среди них есть такие, которые переболели сифилисом. Кроме этого таким женщинам во время беременности проводится профилактическое лечение, чтобы избежать рождения ребенка, больного сифилисом врожденным.

Поэтому женщинам, перенесшим сифилис, не ставшим на учет, а следовательно не получившим профлечение, грозит рождение ребенка с различными неисправимыми уродствами.

Не будьте самоуверенны, и в таких случаях обращайтесь к врачу своевременно.

**И.ВИШНЕВСКИЙ,**
**дерматовенеролог.**

## ПАЦЯРПЕЛА МАГІЛЁЎШЧЫНА

Транспартны і пешаходны рух праз мост на праспекце Міру ў Магілёве абмежаваны аварыйнымі службамі пасля ліўня. Зараз адчынена толькі частка моста, каб увогуле не паралізаваць рух у гэтай частцы горада, якая прымыкае да самага цэнтра Магілёва. Паводле інфармацыі абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях, мост падмыла 14 ліпеня, калі былі зарэгістраваны ўраганны вецер, моцная навальніца і ліўневыя дажджы. Тады аварыйныя службы засыпалі прамывіны пяском, але наступны вялікі дождж праз два дні нарабіў яшчэ больш шкоды. Мосту, які зараз знаходзіцца ў аварыйным стане, патрэбен сур'ёзны капітальны рамонт з выкарыстаннем жалезабетонных канструкцый, таму рух на ім будзе часткова закрыты яшчэ тры-чатыры дні.

Як распавёў начальнік абласнога ўпраўлення МНС Іван Клімчынскі, стыхійнае бедства 14 ліпеня нанесла Магілёўскай вобласці немалыя страты. Сума ўрону яшчэ падлічваецца, але ёсць наступная інфармацыя: у рэгіёне пашкоджана 316 жылых дамоў, 25 вытворчых будынкаў сельскагаспадарчага прызначэння (у тым ліку 35 жывёлагадоўчых фермаў), было адключана 1799 трансфарматарных падстанцый, пашкоджаны 104 лініі электраперадач.

Асаблівую праблему стварылі завалы лесанасаджэнняў на тэрыторыі больш як 13 гектараў. 130 выпадкаў завалаў на дарогах зарэгістравана ў Магілёўскай вобласці. Супрацоўнікам Чэрыкаўскага аварыйна-выратавальнага атрада давялося працаваць цэлую ноч, каб расчысціць 6 кіламетраў дарогі Чэрыкаў–Слаўгарад і два кіламетры шашы Чэрыкаў–Магілёў. Моцна пацярпелі ад стыхіі на Магілёўшчыне Чавускі, Бялыніцкі, Мсціслаўскі і Краснапольскі раёны, дзе ўвогуле было адключана звыш ста населеных пунктаў.

На ліквідацыі вынікаў ураганнага ветру і ліўневых дажджоў працавалі 12 падраздзяленняў МНС – каля ста чалавек. Было задзейнічана яшчэ 70 чалавек і 19 адзінак тэхнікі суб'ектаў народнай гаспадаркі. На панядзелак, 17 ліпеня, паводле даных абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях, былі адноўлены амаль усе пашкоджаныя лініі электраперадач, падключаны 1768 трансфарматарных падстанцый, 693 населеныя пункты і 200 жывёлагадоўчых фермаў.

## "СНІД: многае залежыць ад мужчын"

Паводле даных Аб'яднанай праграмы ААН па СНІДу, на пачатак 2000 г. у свеце зарэгістравана 33,6 млн. мужчын, жанчын і дзяцей, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека, 16,3 млн. памерлі ад гэтай хваробы. У 80 працэнтаў выпадкаў заражэнне ВІЧ-інфекцыяй адбываецца палавым шляхам, прыкладна 5 працэнтаў прыпадае на асоб, якія ўжываюць наркотыкі ін'екцыйным шляхам, чатыры пятых з якіх – мужчыны.

У Рэспубліцы Беларусь з 1987 года выяўлена 2999 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, з якіх 85,7 працэнта – маладыя людзі ва ўзросце 15-29 гадоў.

Мужчыны, лічаць спецыялісты-медыкі, могуць аказацца больш падвергнутымі рызыцы заражэння вірусам імунадэфіцыту чалавека з-за шэрагу абставінаў: міграцыя ў пошуках заробку, уплыў навакольных, які садзейнічае рызыкоўным паводзінам і інш.

"СНІД: многае залежыць ад мужчын" – пад такім дэвізам у Беларусі пройдуць мерапрыемствы ў рамках Сусветнай кампаніі супраць СНІДу, план якіх зацверджаны ва ўрадзе краіны.

Мэтай кампаніі з'яўляецца шырокае прыцягненне мужчын да правядзення мерапрыемстваў па прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі. У гэтай справе яны могуць аказаць уплыў як палітыкі, рабочыя, бацькі, сыны, браты, сябры. Мужчыны павінны ўзяць на сябе вялікую адказнасць за здароўе сваіх партнёраў і сям'і.

### *Анекдот в номер*

Стоит наркоман в автобусе. Заходит старушка, сует ему в руку талон:
– Пробей, сынок, пожалуйста!
У компостера стоит моряк. Наркоман обращается к нему:
– Солдат, пробей талон.
– Я не солдат, я матрос.
Наркоман поворачивается к старушке и говорит:
– Ничего не выйдет, бабка, мы на корабле!..



Выражаем сердечную благодарность врачу райбольницы В.П.Зыкуну, фельдшерам В.И.Вечора и А.А.Свириденко за постоянное внимание, оказание своевременной помощи и лечение Марии Матвеевны Марковой.
**Семья Марковых.**

Выражаем глубокую благодарность коллективу рентгенкабинета райбольницы и КАМОК Зинаиде Васильевне за оказанную помощь и поддержку в организации похорон КИЯШКО Андрея Анатольевича.
**Семьи Кияшко и Глазуновой В.А.**

**Правление и профсоюзная организация колхоза "Серп и молот" выражают глубокое соболезнование ХОБОТОВОЙ Светлане Григорьевне и ХОБОТОВУ Владимиру Антоновичу по случаю смерти МАТЕРИ и ТЕЩИ.**


**Галоўны рэдактар Валянцін КРЫЖЭВІЧ**

НАШ АДРАС: 213200 г. Чавусы, вул. Пралетарская, 13, 2-і паверх
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкай сістэме рэдакцыі газеты "Іскра"
Газета падпісана да друку 21 ліпеня у 9.00

Заснавальнікі газеты "Іскра": Чавускі раённы Савет дэпутатаў, Чавускі раённы выканаўчы камітэт, рэдакцыя газеты "Іскра"
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 17 выдадзена Дзяржкамдрукам 7 чэрвеня 1996 г.
Газета выходзіць у сераду і суботу, апроч пераносу нумароў, звязаных са святамі

ТЭЛЕФОНЫ:
галоўнага рэдактара – 2-12-63, намесніка галоўнага рэдактара і бухгалтэрыі – 2-12-53, аддзела сельскага жыцця і аддзела пісьмаў, прамысловасці і сферы абслугоўвання – 2-19-82.

Газета надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова, па адрасу: г.Магілёў, вул. Першамайская, 72. Аб'ём 1 др. аркуш. Зак. 56. Тыраж 2886 экз. Індэкс 4011